© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №16-17(1-2), 2011

Уладзіслаў Іваноў

# Фемінізацыя nomina agentis беларускай мовы і праблема каланізацыі

*Паступова наша мова зведвае эрозію іншай мовай, з чаго вынікаюць усялякага кшталту сімбіёзы.*
*Часам гэта ўжо не мова ў нармальным функцыянаванні, а, ні больш, ні менш, мова ў нейкім змяненні і дэфармацыі.*

Гастон Мірон, квебекскі паэт (Miron, 1998)

*Адсутнасць жаночага роду ў слоўніках вядзе да адсутнасці жаночых правоў у кодэксах.*

Крыстафэр Нюроп, дацкі лінгвіст (Yagello, 1992).

## Уводзіны

У цэнтры ўвагі гэтай працы ляжаць сучасныя практыкі беларускай мовы (у розных яе версіях), фемінізацыя nomina agentis беларускай мовы, моўная каланізацыя, русіфікацыя, антыкаланіяльныя, а таксама дэкаланіяльныя стратэгіі ў мове і культуры, вяртанне (неа)каланіяльных практыкаў праз перамогу прасавецкіх элітаў.

Прадметам даследавання выступае моўная і культурная каланізацыя, больш дакладна кажучы, каланізацыя беларускай прасторы і мовы, або, калі ўжыць паняткі, прапанаваныя некаторымі лінгвістамі ды ідэолагамі, прадметам працы ёсць культурны (Fanon, 1961; Said, 1993) і моўны імперыялізм (Philippson, 1992) у дачыненні да беларускай мовы і культуры.

Зрэшты, праца засяроджваецца на такой адносна вузкай тэме, як культура мовы і, калі быць зусім канкрэтным, на маргінальнай, але надзвычай сімвалічнай праблеме – фемінізацыя nomina agentis. Разгляд будзе адбывацца праз апісанне практыкаў ігнаравання і/або маргіналізацыі гэтай тэмы ў «афіцыйнай» беларускай мове або, наадварот, яе актуалізацыі ў гэтак званай тарашкевіцы. Таксама апісаны стан дыскусіяў наконт праблемы nomina agentis у феміністцкім і

лінгвістычным дыскурсе Беларусі і праводзіцца параўнанне падобных выпадкаў у іншых культурных кантэкстах.

З выключна моўнай плашчыні адрозненні ў моўных практыках трапляюць у палітычнае, ідэалагічнае вымярэнне, і канфлікт гэты вынікае з дзвюх антаганістычных логікаў: каланіялізм ды падпарадкаванае мысленне з аднаго боку і дэкаланіялізм ды актыўная незалежніцкая пазіцыя з другога. Фемінізацыя мовы і ступень ужывання гэтага лінгвістычнага рэсурсу можа служыць лакмусаваю паперкаю каланіялізму, крытэрам самастойнасці лінгвістаў, інтэлектуалаў і носьбітаў мовы, а таксама паказнікам ступені выкарыстання нутранога культурнага патэнцыялу.

## І. Беларуская мова і каланіялізм

На карысць таго, што мова – гэта з'ява палітычная і палітызаваная, сведчыць, у прынцыпе, уся гісторыя беларускай мовы за апошняе стагоддзе, асабліва актыўныя спрэчкі вакол правапісу, шматлікія артыкулы і кнігі, прысвечаныя ачышчэнню сучаснай мовы ад калек, неадэкватных запазычанняў, «рэабілітацыі» асобных пластоў мовы. У рэчышчы спробаў такой моўнай рэабілітацыі ўвага звяртаецца не толькі на структуру — граматыка, лексіка, – але і праблемы, так бы мовіць, эстэтычныя, «экалогію мовы». Гэта тычыцца спробаў зменшыць колькасць як відавочных русізмаў (напрыклад, ужывання суфіксаў *-ш-а* або *-унн-я*), так і ўплываў іншага ўзроўню, якія палягаюць у пластах псіхалагічных, лексічных ды фразеалагічных.

Трэба адзначыць, што да сёння шмат у чым беларуская філалогія застаецца залежнай ад савецкай і расійскай. Як ні дзіўна, сумненні і праблемы беларускай мовы развязваюцца часцяком не ў Менску, а ў сталіцы суседняй краіны. Прыкладам можа быць нядаўняя праца вядомага мовазнаўцы Віктара Іўчанкава пра гісторыю беларускай арфаграфіі, якая часта грунтуецца на апеляцыі да расійскіх аўтарытэтаў (Іўчанкаў, 2010).

Ніжэй пры разглядзе праблемы беларускай мовы мы абапіраемся на пэўную антыкаланіяльную традыцыю, паводле якой Беларусь і беларусы сталіся аб'ектам расійскага каланіялізму, а сама Беларусь ёсць калі не класічнаю калоніяй, то прынамсі краінаю, якая трапіла і застаецца ў зоне інтарэсаў і распаўсюду культурнага ды моўнага імперыялізму.

Прадстаўнікамі беларускай антыкаланіялісцкай традыцыі мы бачым дысідэнтаў кшталту Ларысы Геніюш, Алеся Каўкі, Алега Бембеля, Міколы Ермаловіча ды іхныя вядомыя працы: «*Споведзь*», «*Ліст рускаму сябру*» і «*Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс*», публіцыстыка Ермаловіча (Запіс выступу Міколы Ермаловіча ў клубе «Спадчына», «Гутаркі» Міколы Ермаловіча) (Геніюш, 1993; Letter to.., 1979; Бембель, 1985; Ермаловіч, 2007; 2010). Сюды ж мы прылічваем такіх інтэлектуалаў, як Леанід Ліс, Валянцін Грыцкевіч, Зянон Пазняк (Ліс, 1994, 2000; Грыцкевіч, 2000; Пазьняк, 2005). Пры гэтым паняткі «моўны імперыялізм», «культурны

імперыялізм» і «неакаланізацыя праз мову» хоць і ўзніклі пад уплывам марксісцкіх ідэяў і былі ў значнай ступені палітызаваныя, сёння стабільна прызнаюцца і ўжываюцца ў сучаснай акадэмічнай мове (Fanon, 1961; Calvet, 1974; 1987; Philippson, 1992, Said, 1993; 2008; Durand, 2002).

На сучасным этапе ў беларускім незалежным паліталагічным, філасофскім і этналагічным атачэнні робяцца спробы артыкуляваць гэтыя паняткі (а таксама новы – «дэкаланіялізм») і ўвесці іх ва ўжытак, а таксама назіраецца пэўнае намаганне не толькі паказаць саму Беларусь як краіну, што можа ўспрымацца і апісвацца як былая калонія, але надаць гэтаму падыходу тэарэтычную абгрунтаванасць (Казакевіч, 2001; Бабкоў, 2005; 2011; Пазняк, 2010; Гарбацкі, 2011). Варта зазначыць, што некаторыя замежныя мысляры і навукоўцы таксама спрыяюць развіццю і распаўсюду дыскурсу пра беларускую і рэгіянальную (пост)каланіяльнасць, пра моўны і культурны імперыялізм (Сцяцко, 2000; Кузё, 2006; Томпсан, 2009; Symaniec і Lallemand, 2007; Рабчук, 2003; Паўлышын, 2005).

Дысідэнты скіроўвалі ўвагу на доказванне наяўнасці калоніі ды каланіялізму, на тое, каб паказаць, што Беларусь – калонія, а не роўная рэспубліка сярод іншых. Тым самым яны спрычыніліся да выпрацоўвання пэўнай антыкаланіяльнай стратэгіі. Пазней, у перыяд незалежнасці, асобныя інтэлектуалы на аснове напрацовак папярэднікаў распачалі дэкаланіяльны дыскурс. Яны не проста змагаліся супраць каланіялізму, а выпрацоўвалі пэўныя захады і стратэгіі для выхаду з каланіяльнага стану і пазбаўлення комплексаў і ўстановак, уласцівых залежнасці. Такім парадкам, у сваім даследаванні мы як ад базавых адштурхоўваемся ад такіх паняткаў, як моўны каланіялізм, каланізацыя беларускай мовы, русіфікацыя беларускай мовы, каланіяльны лад мыслення, дэкаланізацыя, дыскурс дэкаланізацыі.

Значная частка аўтараў інтэрпрэтуе каланіялізм як з'яву, характэрную для Афрыкі і Азіі. У адпаведнасці з такою логікай у Еўропе няма і быць не можа ні калоніяў, ні каланізатараў. Ірландская, брэтонская або беларуская мовы «натуральным чынам» знікаюць у Еўропе без калоніяў. Тым не менш, дастаткова аформленым ёсць бачанне, што ахвярамі культурнага і моўнага імперыялізму выступаюць не толькі былыя «класічныя» калоніі (краіны Афрыкі, Азіі або Лацінскай Амерыкі), але і калоніі «невідавочныя» і/або інтэграваныя ў склад метраполіі ў самой Еўропе (Корсіка, Брэтань, Каталонія, Беларусь і г. д.) або Амерыцы (індзейцы, інуіты, а таксама, у пэўны перыяд, квебекцы) (Lafont, 1971; Calvet, 1974; Сміт, 1995; Іванишин, 1994; Грыцкевіч, 2000). Гэтак, адзін з лідараў ды ідэолагаў квебекскага руху П'ер Вальер у 1967 годзе напісаў скандальнае эсэ «Белыя негры Амерыкі», маючы на ўвазе франкамоўных квебекцаў, у якім пашырыў звычайнае кола каланізаваных (Vallières, 1967).

Сучасная (неа)каланізацыя, хутчэй, разгортваецца паводле новых мадэляў і абапіраецца на эканоміку, інфармацыйныя тэхналогіі, а таксама сімвалічную зброю. Паводле французскага мовазнаўцы Шарля Дзюрана, які даследуе і тлумачыць

тэхнічную, навуковую і моўную манаполію англа-амерыканцаў, усе культуры і мовы сучаснасці зведваюць «*фантастычную хвалю неакаланізацыі (менавіта) праз мову*», і «*адбываецца вяртанне каланіялізму, які ахоплівае ўжо не выключна развіваныя краіны, але і (пост)індустрыяльныя краіны*» (Durand, 2002; 2003). Не толькі традыцыйна маргінальныя мовы (беларуская, карсіканская, украінская), але і былыя імперскія мовы (французская, партугальская, іспанская) каланізуюцца і маргіналізуюцца праз тэхнічнае, навуковае, інфармацыйнае і фінансавае дамінаванне англійскай мовы.

Беларусы таксама належаць да катэгорыі неакаланізаваных, бо на карысць (неа)каланізаванасці нашай культуры і мовы сведчыць вялікая колькасць з'яваў і фактаў. Добрым прыкладам можа быць надзвычайная палітызацыя моўнай тэмы. Апошнія нацыянальныя перапісы, рэфармаванне мовы, урэшце, параза «дзеясловіцы» і нашаніўскай «тарашкевіцы» ў адстойванні сваіх прынцыпаў і каштоўнасцяў, а таксама масавы пераход з 2009–2010 гадоў на «наркамаўку» – усё гэта якраз сведчыць пра логіку каланіяльнай сістэмы. Пры гэтым падчас усіх гэтых змаганняў руская мова як адна з афіцыйных моваў краіны застаецца па-за палітыкаю, нечапанаю, дамінантнаю ды імперскаю моваю.

Зкаланізаванай ёсць не толькі рускамоўная беларуская культура, але і ўласна беларускамоўная. Існаванне некалькіх стандартаў мовы («наркамаўка», «тарашкевіца», «дзеясловіца») выклікане сітуацыяй, мала спрыяльнай для развіцця мовы. У пэўнай ступені перамогу «афіцыйнага стандарту» можна ўспрымаць як перамогу каланіяльнага дыскурсу, каланіяльнага прадукту.

Беларускія лінгвісты – «афіцыйныя» (Аляксандр Падлужны, Аляксандр Лукашанец), «альтэрнатыўныя» (Вінцук Вячорка, Зміцер Санько, Павал Сцяцко, Юры Пацюпа, Генадзь Цыхун), а таксама лінгвісты дыяспары (Валентына Пашкевіч, Ніна Баршчэўская) – прызнаюць, што ў XX стагоддзі беларуская мова, перад тым як пачала вынішчацца і знікаць, зведала моцныя хвалі русіфікацыі. Адмыслоўцы ў культуры мовы (Алесь Каўрус, Юры Пацюпа, Павал Сцяцько) аналізавалі пранікненне рускай мовы ў беларускую праз вялікую колькасць калек і сінтагмаў, да пэўнай ступені завуаляваных і інкруставаных. Мова мяняецца не толькі ў сваёй структуры, але і вонкава – эстэтычна і стылістычна.

Цэнтральны ў нашым даследаванні прыклад такой «эрозіі» мовы – пытанне фемінізацыі пасадаў, тытулаў. Калі «тарашкевіца» і часткова «дзеясловіца» традыцыйна выказваліся за фемінізацыю *nomina agentis*, то «наркамаўка», як злегчаны прадукт каланіялізму, працягвала традыцыю рускай мовы, якая заўсёды адносіла фемінізацыю да з'явы размоўнай. Адпаведна і ў афіцыйнай беларускай мове фемінізацыю інтэрпрэтуюць як *разм.* ці *абл.*, а часам *жарт*. Напрыклад, слова «прэзідэнтка» ў слоўніку Крапівы пазначаецца як жартлівае (Русско-белорусский словарь, 1994).

Зрэшты, неабходна патлумачыць, што маецца на ўвазе пад

фемінізацыяй мовы. Перадусім гаворка ідзе пра фемінізацыю вузкай групы, *nomina agentis*, якая закранае назвы пасадаў, тытулаў, прафесіяў, роду заняткаў, а не пра фемінізацыю наагул. Пытанне гэтае крыху штучнае, бо натуральная мова – дыялектная, на якой і гамоніць значная частка беларусаў, у прынцыпе, адносна лёгка ўключае ў сваю лексіку назвы прафесіяў у жаночым родзе. Жыхары беларускіх вёсак і мястэчак адносна проста фемінізуюць амаль усе вядомыя ім назвы прафесіяў, тады як гарадскія беларусы (пад уплывам рускай мовы) адносяць гэты феномен да вульгарызацыі (на прыкладзе газеты «Звязда» бачна, як маскулінізуюцца на рускі капыл шматлікія натуральныя ў беларускай мове фемінінатывы).

## II. Мовазнаўства і nomina agentis: стратэгіі (дэ)каланізацыі

У мовазнаўчых колах у гэтым пытанні можна вылучыць дзве плыні. Першая – **тарашкевіца**, асабліва яе сучасная версія, апрацаваная журналістамі і мовазнаўцамі газеты «Наша Ніва» (да 2009 года), «ARCHE» ды іншымі, якія прытрымліваюцца правілаў і нормаў дарэформеннай мовы і дбаюць пра захаванне класічных эстэтычных нормаў. Гэтая плынь, калі не рэвалюцыйна, то досыць радыкальна фемінізуе назвы пасадаў і прафесіяў, бо абапіраецца перадусім на жывую мову і амаль цалкам ігнаруе рускае калькаванне. Варта тут згадаць «граматыку беларускай мовы» Язэпа Лёсіка, у якой сцвярджаецца, што «*беларуская мова ўсе свае лепшыя сокі чэрпае з мовы народных дыялектаў*» і што «*беларуская літаратурная мова не вельмі адышлася ад мовы народнае*» (Лёсік, 1995: 122).

Другі прадстаўнік гэтай плыні – Ян Станкевіч – спыняўся на пытанні фемінізацыі назоўнікаў, што абазначаюць пасаду, прафесію або тып заняткаў. Лінгвіст рупіўся пра чысціню мовы і казаў пра натуральнасць суфіксаў *-ыц-а, -іц-а* (*караліца, цэсарыца, царыца, нямчыца, жыдзіца, французіца*) (Станкевіч, 2002a: 152), а некаторыя словы з суфіксам *-к-* лічыў украінізмамі, напрыклад, *імпэратарка* (Станкевіч, 2002a: 153). Гэта дастаткова спрэчная ідэя, адпаведныя прыклады з гістарычнай граматыкі надзвычай цікавыя і карысныя, суфікс *-к-* ужываецца і на поўначы Беларусі (*царка* замест *царыца*, *імпэратарка* замест *імпэратрыца*) (Станкевіч, 2002a: 153). Таксама пра досыць актыўнае, а таму прадуктыўнае выкарыстанне суфікса *-іц-а/ыц-а* ў старабеларускай мове сведчаць шматлікія працы: *Старабеларускі лексікон* Мікалая Прыгодзіча і Галіны Цівановай (Прыгодзіч, Ціванова, 1997), *Гістарычны слоўнік беларускай мовы,* а таксама артыкулы асобных лінгвістаў (Булахаў, 1968; Гістарычны слоўнік беларускай мовы, 1982–2011).

У гэтым рэчышчы варта прыгадаць «Расейска-беларускі слоўнік» Янкі Купалы 1923 года, які ўтрымлівае цудоўныя прыклады фемінізацыі некаторых пасадаў і званняў, а таксама некаторыя вельмі слушныя і гендарна нейтральныя формы, што могуць

спадабацца сучасным прыхільнікам «палітычна карэктнага» ладу мыслення і жыцця. Варта згадаць такія варыянты, як *драматысты, драматыстыя, фантасты, фалькльорысты, футурысты, энтузыясты* і г. д. (Расейска-беларускі слоўнік, 2003).

Яны сустракаюцца, дарэчы, і ў творах некаторых нашых пісьменнікаў: Міхася Зарэцкага, Леапольда Родзевіча. Гэта можа быць лоўкаю спробаю вырашыць пэўныя праблемы з немажлівасцю фемінізацыі некаторых словаў або больш мілагучным і прыгожым развязаннем. Напрыклад, «*драматург*» актыўна ўжываецца ў мове, а «*драматургіца*» або нават «*жанчына-драматург*» – амаль ніколі. У такой сітуацыі прапанова «*драматысты*» можа фемінізаваць як назоўнік – «*драматыстая*». Паводле гэтай логікі можна развязаць пытанне аднабаковасці слова «феміністка», якое прадэманструе сваю прыдатнасць асабліва ў множным ліку – «*феміністыя*». Ян Станкевіч таксама прапаноўваў пашырыць ужытак назоўнікаў, падобных да прыметнікаў: *булавісты, арганісты, гарманісты, шавіністы, каланісты* і г. д. (Станкевіч, 2002b). Ён прапаноўваў варыянты *анархістая*, *артыстая* замест *анархістка*, *артыстка*, якія лічыў штучнымі, а першыя «*асаблівасцю мовы вялікалітоўскае*» (Станкевіч, 2002b). Тут трэба адзначыць эфектыўнасць гэтага варыянту ў справе канструявання разнастайнай і пры гэтым эгалітарысцкай мовы. Заўважым, што кожны з пералічаных мовазнаўцаў не належаў да феміністскіх колаў і наагул не звязваў сябе з гэтым рухам.

Сучасныя прыхільнікі «тарашкевіцы» таксама раяць ужываць назоўнікі жаночага роду, што абазначаюць прафесію, пасаду або род заняткаў, тым больш, калі іх займае жанчына. У самой рэдакцыі газеты «Наша Ніва» працуюць сакратаркі, карэктаркі, асістэнткі, журналісткі. І асвятляючы падзеі, яны актыўна фемінізуюць мову – «скульптарка», »прэзідэнтка», «кампазітарка» і г. д. Пры гэтым варта зазначыць, што рэдакцыя «Нашай Нівы», хоць і станоўча ставіцца да фемінізацыі назоваў прафесіяў і ступеняў, не заўсёды прытрымліваецца адных узораў. Частка журналістаў заўсёды фемінізуе словы, некаторыя робяць гэта неяк выбаркова.

Цікава, што назвы, якія тычацца гуманітарнай сферы, дзе жанчыны маюць вагу, лёгка фемінізуюцца і не выклікаюць праблемаў: «фатамастачка», «дасьледчыца-беларусістка», «журналістка», «рэпартэрка», «літаратарка», «стажэрка», «мадэлька», «паўстанка», «майстарка спорту», «шагідка», «правадніца», «судырэктарка», «кіраўніца», «рэжысёрка», «адвакатка», «фэльчарка», «выдаўніца», «закладніца», «фундатарка»,«рызыкантка», «лідэрка», «асьпірантка», «вэтэранка», «дацэнтка», «прафсаюзьніца», «лінгвістка», «рэдактарка», «кандыдатка», «міністарка», «ляўрэатка», «прафэсарка», «архівістка», «мэнэджарка», «сакратарка ЦК» і г.д. (падаецца ў напісанні «Нашай Нівы»).

Значна цяжэй журналістам фемінізаваць назвы пасадаў палітычнага вымярэння, вымярэння ўлады і сімвалічнай значнасці. Гэтак, напрыклад, у «Нашай Ніве» Ангела Мэркель амаль заўжды застаецца «федэральным канцлерам» або нават «першаю

жанчынай-канцлерам» і «эфектыўным палітыкам», а Ірына Дубянецкая – «доктарам тэалогіі» (пры гэтым нябожчыца Ірына Шаблоўская была «доктаркаю філалагічных навук»), Наталля Пяткевіч – «намеснікам кіраўніцтва Адміністрацыі прэзідэнта», а Юлія Цімашэнка «прэм'ерам Украіны» (у той час як Ганна Сухоцкая ў Польшчы была «прэм'еркаю»!).

Цяжкасці паўстаюць, калі размова заходзіць пра «генетыкаў», «педагогаў», «хімікаў» і «палітолагаў». Тут нашаніўцы не адважваюцца эксперыментаваць. Таму і Святлана Навумава, і Ірына Бугрова пакуль яшчэ застаюцца «палітолагамі» або «жанчынамі-палітолагамі» і «кандыдатамі філасофскіх навук». А вось у «ARCHE» спадарыня Навумава паўстае як «паліталагіня», у сеціве сустракаецца форма «паліталягіца».

Думку пра пажаданасць пашыраць ужыванне асабовых жаночых назваў з суфіксам *-к-а* (*касірка, білецёрка, паэтка, сакратарка* і г. д.) выказвалі і некаторыя навукоўцы, не прыналежныя да кола прыхільнікаў «тарашкевіцы» (напрыклад: Сцяцко, 2002).

Другая плынь – **наркамаўка**, сучасная афіцыйная беларуская мова. Зрусіфікаваная цягам апошняга стагоддзя, яна звычайна мала чым адрозніваецца ад рускай мовы ў афіцыйным выкарыстанні роду назоўнікаў, што азначаюць назвы прафесіяў і званняў. Гэтак, напрыклад, у «Стылістыцы беларускай мовы» Міхаіла Цікоцкага знаходзім, што «*ў афіцыйна-дзелавым стылі звычайна ўжываецца толькі форма мужчынскага роду, нават калі ёсць адпаведная форма жаночага роду. [...]. Формы жаночага роду з суфіксам -ш, -к, -іц-а, -ыц-а, -ых-а – уласцівасць размоўнага стылю*» (Цікоцкі, 1976: 153–154). Пры гэтым граматыст заўважае, што апошнім часам вельмі распаўсюджанымі зрабіліся формы жаночага роду назоўнікаў з суфіксам *-к* (*доктарка, кандуктарка, сакратарка*) (Цікоцкі, 1976: 153–154).

Тлумачэнне прыхільнікаў наркамаўкі наконт таго, што шмат якія назвы асобаў паводле прафесіі, пасады, звання, роду заняткаў і гэтак далей маюць форму мужчынскага роду нават тады, калі абазначаюць асобу жаночага роду, бо шматлікія прафесіі, пасады былі раней недаступныя для жанчыны, – недастатковае, каб апраўдаць выключную маскулінізацыю.

Пазней, ужо ў XX стагоддзі, са значным спазненнем пачаліся працэсы выпрацоўвання новых правілаў і стварэння слоўнікаў. І ўжо постфактум і пад уплывам, няма сумневу, рускае мовы ў беларускія падручнікі праніклі нормы лексічныя і стылістычныя, што датычаць фемінізацыі назваў асобаў, якія афіцыйна выступаюць толькі як назоўнікі мужчынскага роду. Пра такую з'яву пісаў Язэп Лёсік: «*...сучасная беларуская літаратурная мова ўвабрала ў сябе шмат неўласцівых беларускай мове сінтаксічных і фразеалагічных зваротаў. [...] Пераймаючы чужыя сінтаксічныя звароты, мы надаём нашай літаратурнай мове неўласцівага беларускай мове характару і тым абарачаем яе ў нейкі ня існуючы дыялект, або ў карыкатуру*» (Лёсік, 1994: 92).

Аднак у межах «наркамаўкі» таксама выказваліся альтэрнатыўныя

меркаванні. Напрыклад, мовазнавец Мікалай Паўленка на прыкладзе старабеларускай мовы паказаў, што беларускай мове ўласцівая тэндэнцыя да большага фемінізавання назваў пасадаў і званняў, чым для іншых усходнеславянскіх моваў – рускай і ўкраінскай. Аўтар манаграфіі «Нарысы па беларускаму словаўтварэнню. Жаночыя асабовыя намінацыі ў старабеларускай мове» (Паўленка, 1978) паказаў, як утвараліся фемінатывы, падаў спіс назваў прафесіяў і званняў, агульных для ўсіх трох народаў, а таксама спіс словаў, якія фармаваліся толькі ў беларускай мове (Паўленка піша пра «заходнерускі моўны арэал»). Такім парадкам, мовазнаўства, хоць і без усялякай сувязі і паралеляў з сучаснаю беларускаю моваю, спрабавала разгледзець пытанне ўтварэння і распаўсюджвання жаночых формаў nomina agentis у гістарычнай перспектыве.

Найбольш актыўны перыяд фармавання фемінатываў у (стара)беларускай мове прыпаў на XVI–XVII стагоддзі. Старабеларуская мова развівалася не ізалявана, але ў повязі з суседнімі мовамі, таму значны пласт фемінатываў у мове нашых продкаў і рускіх, а таксама ўкраінцаў, падобны (*княгиня, княжна, пасербица, царица* і г. д.). Пры гэтым, як мова самастойная, беларуская мела шэраг асаблівасцяў: напрыклад, на ўласнабеларускай і польскай моўнай глебе сфармаваліся гэткія словы, як *воеводиная, братанка, господарина, корчмитка, шинкарка, папежничка, выволанка, старостянка* ды інш. Таксама старабеларускай мове была ўласцівая (і, дарэчы, застаецца ўласцівай сучаснай беларускай мове) гэткая з'ява, як досыць шырокае выкарыстанне заходніх словаў (*абатиса, дьякониса*). І, натуральна, у мове паўсталі словы лакальныя, уласцівыя выключна беларускамоўнаму арэалу: *рабаса* (жаночая форма слова «*рабін*»), *пороженица, породеля* і некаторыя іншыя.

Яшчэ адзін даследнік, якога можна аднесці да шэрагу «афіцыйных», – Уладзімір Піскун – вывучаў жаночыя асабовыя намінацыі ў сучаснай беларускай мове. Асаблівую ўвагу ён надаў сферы спорту, дзе назіралася вельмі цікавая эвалюцыя развіцця шэрагу жаночых асабовых намінацыяў («чэмпіянэса» ад «чэмпіён», «конніца» ў сэнсе «вершніца» ад «коннік» і пад.) (Пискун, 1972). Мовазнавец дэманструе, што ў даваенны перыяд беларуская мова досыць актыўна і смела дазваляла сабе фемінізацыю назваў пасадаў, а пасля вайны і асабліва пасля вядомых русіфікатарскіх рэформаў пачала капіяваць у гэтым пытанні рускія мадэлі (Пискун, 1972).

## III. Nomina agentis і феміністкі дыскурс

Можна канстатаваць, што сучаснага феміністкага дыскурсу па-беларуску не існуе. Не існуе таксама дыскурсу мясцовых феміністак/феміністаў пра беларускую мову. Гэта магло б сведчыць пра адсутнасць праблемы фемінізацыі, таму нават асобы, заангажаваныя ў барацьбу за роўнасць, не знайшлі зачэпак для дадатковых дыскусіяў. Натуральна, прычынай усяму

пераважная рускамоўнасць і/або англамоўнасць (рускадумнасць і англадумнасць) мясцовых актывістаў руху. Фактычна ў беларускай мове не існуе праблемы з фемінізацыяй, існуе праблема дамінавання рускай мовы, што распаўсюджвае як уласныя нормы, гэтак і ўласныя погляды на пытанне культуры і стылістыкі на іншыя, суседнія, ужо па сутнасці маргінальныя, мовы.

Сярод мясцовых феміністаў і феміністак, натуральна, ёсць беларускамоўныя. Гэтак, напрыклад, пісьменніца Валянціна Коўтун вядомая як раманістка, але таксама як досыць актыўная феміністка. Яе творы – «Крыж міласэрнасці» і «Пакліканыя» – уяўляюць з сябе не толькі добрыя прыклады сучаснага прыгожага пісьменства і эксперыменту са словам, але і творы, дзе актыўна ўжываюцца фемінатывы (*юніца, суродзічка, вершніца, ваярка*) і ствараюцца новыя словы (*агненьніца*) (Коўтун, 2007). Але пры гэтым беларускія феміністкі і пісьменніцы часцяком кажуць пра сябе «пісьменнік» у мужчынскім родзе, але «феміністка» ў жаночым родзе.

Такім чынам, хоць афіцыйна мясцовыя феміністкія рухі ігнаруюць пытанне фемінізацыі назваў прафесіяў, тытулаў і роду заняткаў у беларускай мове, яны ўсё-такі выступаюць за пашырэнне гэтай з'явы і інтэгравання яе ў моўную практыку. І мы хацелі б заўважыць, што нароўні з эстэтычным памкненнем тут прысутнічае і вельмі моцнае феміністкае тлумачэнне, так бы мовіць, феміністкае апраўданне гэткага стану. Тут рэч не толькі ў выключна моўнай барацьбе, але і ў феміністкім ды гуманістычным імкненні да эгалітарызацыі.

Перашкодаю на шляху да ажыццяўлення гендарнай роўнасці на сучасным этапе ёсць кансерватыўны і каланіяльны лад мыслення мясцовых адмыслоўцаў і наагул асобаў, якія распаўсюджваюць веды пра беларускую мову.

Перашкодаю да натуральнага ўключэння фемінізацыі мовы ў сферу публічную, перш за ўсё, ёсць руская мова, якая мае большую залежнасць ад патрыярхальнай культуры, чым беларуская. Гістарычна руская мова значна раней трапіла пад пільны кантроль уладаў, і яе значна пераўладкавалі праз шматлікія слоўнікавыя ды ідэалагічныя рэвізіі. А беларуская мова пэўны час проста была выключаная з «высокай» культуры і развівалася на вёсцы.

## IV. Беларуская сітуацыя ў параўнальнай перспектыве

Беларуская мова – не адзіная славянская мова, у якой назіраецца пашыраная, досыць натуральная, гістарычна і эстэтычна абумоўленая з'ява фемінізацыі nomina agentis. Сучаснай украінскай мове, якая таксама чэрпае з агульнай культурна-лінгвістычнай спадчыны ВКЛ, уласцівая старая традыцыя фемінізацыі агентыўна-прафесійных назваў (Пузиренко, 2009). Праўда, на сучасным этапе, як заўважае Ярына Пузырэнка, пад уплывам пазамоўных чыннікаў (маскулінізацыя, узаемадзеянне моваў,

уплыў рускай мовы) бальшыня фемінных nomina agentis ва ўкраінскай мове пазначаюцца як *разм.* (Пузіренко, 2005), што, натуральна, абмяжоўвае іх выкарыстанне ў публічнай і літаратурнай сферах. Можна меркаваць, што апісаная вышэй сітуацыя ва ўкраінскай сучаснай мове вельмі падобная да той, якую мы назіраем у афіцыйнай беларускай літаратурнай мове («наркамаўцы»).

Зусім іншая сітуацыя склалася ў славацкай мове, дзе тэндэнцыя да стварэння жаночых назваў нагэтулькі жывая і актыўная, што мажліва атрымаць жаночы адпаведнік ледзьве не ад кожнай мужчынскай назвы (Буднікова, 2004). Што выразна адрознівае гэтую мову ад літаратурных стандартаў рускай, украінскай і беларускай.

Цікавым прыкладам для моўнай сітуацыі ў Беларусі можа быць квебекская мова, або французская мова Квебека. Да атрымання сапраўднай аўтаноміі ў ХХ стагоддзі яна зведала значны ціск з боку англійскай мовы. Пры гэтым квебекская мова была і ў пэўнай ступені застаецца змаргіналізаванай з боку французскай мовы Францыі, якая навязваецца ў свеце як стандарт. Узмацненне і перамога квебекскага нацыяналізму і, як вынік, мовы ў другой палове ХХ стагоддзя выклікалі істотныя зрухі ў статусе мовы: дзякуючы вядомаму «закону 101» квебекская мова (*le québécois*), або французская квебекская мова (*le français québécois*) сталася адзінай афіцыйнаю моваю Квебека. Створаная ў 1961 годзе Палата квебекскай французскай мовы *(L'Office québécois de la langue française, OQLF)* займаецца захаваннем, унармаваннем і распаўсюдам французскай мовы на тэрыторыі Квебека (Corbeil, 2004). У адрозненне ад еўрапейскай французскай мовы, квебекская значна смялейшая ва ўжыванні неалагізмаў, архаізмаў і дыялектызмаў. У выніку фемінізацыя *nomina agentis* ёсць адным з афіцыйных прыярытэтаў квебекскай мовы (Yagello, 1992).

Цікава пазначыць, што гэты прыярытэт часткова ўпісваецца якраз у логіку змагання з французскім акадэмізмам, моўным і эстэтычным каланіялізмам. То бок фемінізацыя мовы – гэта хоць і натуральны працэс, але пры гэтым выступае як пэўная нацыянальная, калі не нацыяналістычная, зброя. У нейкай ступені гэта маркер адрознасці. У квебекскай і беларускай мовах фемінізацыя ўвасабляе нутраны патэнцыял моўнай сістэмы. Зрэшты, натуральная фемінізацыя ўласцівая квебекскай і беларускай мовам, што вынікае з іх маргінальнага ў мінулым характару, пэўнай архаічнасці, нераспрацаванасці, так бы мовіць, нязлегчанасці, праз якую прайшлі мовы імперскія (французская, руская, іспанская, ангельская або партугальская).

## Высновы

Прызнаючы, што беларуская культура і мова ў гістарычнай перспектыве каланізаваныя (гэта спалучаецца з рознымі практыкамі дэкаланізацыі), на прыкладзе вузкай моўнай тэмы – фемінізацыі nomina

agentis – можна зрабіць высновы пра наступнае:

Па-першае, беларуская мова і ў межах незалежнай дзяржавы застаецца ўнармаванаю на ўзор рускай мовы. Атрымаўшы незалежнасць, беларусы не пазбавіліся былых уплываў і, як часта здараецца ў посткаланіяльны перыяд, захавалі шматлікія звычкі, мысленне і ментальныя мадэлі імперыі, былых каланіялістаў, так бы мовіць, прадстаўнікоў цэнтру (Béji, 2008; Гарбацкі, 2011). У грамадстве назіраюцца супярэчлівыя тэндэнцыі: афіцыйнае спрыянне пашырэнню рускай мовы спалучаецца з маргіналізацыяй беларускай на ўсіх сацыяльных узроўнях; адбываецца рэфармаванне мовы пад моцным кантролем ідэалагічна і эстэтычна русафільскай улады. Дэбаты вакол правапісу ў апошнія гады і асабліва інстытуцыйная перамога гэтак званага школьнага правапісу дэманструюць трываласць моўнага каланіялізму. Магчыма, рэформа мовы была неабходная, але яе абмеркаванне не ўключала шырокага кола спецыялістаў і грамадзянаў. То бок стратэгіі ды праекты дэкаланізацыі беларускай мовы, якія паўсталі ў межах «тарашкевіцы» дыяспары, затым «тарашкевіцы» «Нашай Нівы» і «дзеясловіцы«, прызналі радыкальнымі і адрынулі, прычым зрабілі гэта як улада, так і ў значнай ступені недзяржаўныя асяродкі. Насупор багатай традыцыі, як сведчаць шматлікія даследаванні ў гістарычнай граматыцы і дыялекталогіі беларускай мовы, сёння фемінізацыя мовы ў афіцыйным рэчышчы аднесеная да размоўнага рэгістру, што назіраецца ў рускай мове.

Па-другое, цікава і парадаксальна, што мясцовы феміністкі рух амаль ніяк не спрычынены да натуральнай фемінізацыі назваў пасадаў і ніяк не выкарыстоўвае сёння гэтага надзвычайнага рэсурсу. Такім чынам, артыкуляванне тэмы фемінізацыі nomina agentis у беларускай мове – справа выключна мовазнаўцаў, якія ніякім чынам не звязаныя з фемінізмам і прытрымліваюцца ў прыватным жыцці пераважна традыцыяналісцкіх поглядаў.

Па-трэцяе, не зважаючы на перамогу «кампраміснага» моўнага праекта ў 2009 годзе, гісторыя развіцця мовы і яе нутраных рэсурсаў (сярод якіх і натуральная фемінізацыя мовы) даводзіць прынцыповую стылістычную, эстэтычную, экалагічную і нават ідэалагічную адрознасць праекта афіцыйнага правапісу ад «тарашкевіцы». Трэба разумець, што якраз у разрэзе канфлікту паміж «тарашкевіцай» і «наркамаўкай» палягаюць пытанне і праблема каланіялізму. А ўсвядоміць і развязаць іх дапамагаюць такія маркеры, як фемінізацыя назваў пасадаў. Як бы рэформа ні ігнаравала гэты рэсурс, ён усё адно актыўна выкарыстоўваецца носьбітамі мовы.

Зрэшты, пытанне фемінізацыі мовы хоць і разглядаецца лепей і актыўней у межах «тарашкевіцы», застаецца збольшага па-за ідэалогіяй і палітыкаю. Наколькі б глыбокімі і прынцыповымі ні былі разыходжанні паміж двума лагерамі, нават прыхільнікі гэтак званай афіцыйнай беларускай мовы надаюць шмат

увагі тэме фемінізацыі назваў пасадаў, званняў і катэгорыяў, што выразна відно, напрыклад, у афіцыйным «Тлумачальным слоўніку», дзе аўтары побач са словамі ў мужчынскім родзе амаль заўсёды падаюць варыянт у жаночым родзе. І вельмі часта гэта прынцыпова адрозніваецца ад мовы рускай, адкуль традыцыйна чэрпае афіцыйная беларуская мова.

**Літаратура**


1. Бабкоў, Ігар (2005). «Генэалёгія беларускай ідэі», ARCHE, № 3 (37), URL (доступ 11.09.11) http://arche.bymedia.net/2005-3/babkou305.htm
2. Бабкоў, І. (2011) «Посткаляніяльныя дасьледы», Лекцыі, Беларускі Калегіюм, URL (доступ 15.11.11) http://bk.baj.by/lekcyji/litaratura/postcolonial/babkou_06.htm
3. Бембель, Алег (1985). *Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс*, Лёндан.
4. Буднікова, Леся (2004). *Назви осіб у сучасній словацькій літературній мові: словотвірний аспект*. Автореферат, Київ.
5. Булахаў, М. (1968). «Аб словаўтварэньні скарынінскіх выданьняў», *450 год беларускага кнігадрукаваньня*. Мінск.
6. Гарбацкі, Ў. (2011). «За дэкалянізацыю беларускай мовы», URL (доступ 15.02.11) http://www.arche.by/by/30/40/3260/За-дэкалянізацыю-беларускай-мовы.htm
7. Геніюш, Ларыса (1993). *Споведзь*. Мінск.
8. *Гістарычны слоўнік беларускай мовы (1982–2011).* Мінск: Беларуская навука.
9. Грыцкевіч, В. (2000). «Лінгвацыд, альбо Знішчэнне мовы», Аняменне. З хронікі знішчэння беларускай мовы, Вільня, с. 83–91.
10. Грыцкевіч, Валянцін (2000). *Гісторыя і міфы*. Мінск.
11. Ермаловіч, Мікола (2007). *Успаміны, творы, фотаматэрыялы*, Мінск, URL (доступ 19.02.12) http://pawet.net/library/history/bel_history/_books/ermalovich/Мікола_Ермаловіч._Успаміны,_творы,_фотаматэрыялы.html
12. Ермаловіч, Мікола (2010). *Выбранае*. Мінск.
13. Іванишин, Василь (1994). Мова і нація. Дрогобич.
14. Іўчанкаў, Віктар (2010). *Беларуская арфаграфія: апавяданні і гісторыі*. Мінск: Пачатковая школа.
15. Казакевіч, А. (2001) «Пра калёнію», Палітычная сфера, №1, с. 44–47, URL (доступ 15.12.11) http://journal.palityka.org/wp-content/uploads/2011/04/1911-9.pdf
16. Каўрус, Алесь (2011). *Да свайго слова. Пытанні культуры мовы.* Мінск.
17. Коўтун, Валянціна (2007). *Пакліканыя, раман-жыціе*. Мінск.
18. Кузё, Т. (2006) «Заходняя тэорыя і практыка шматкультурнасьці: наколькі яна прыдатная для постсавецкіх дзяржаваў?», *ARCHE*, № 11 (51), URL (доступ 15.12.11) http://arche.bymedia.net/2006-11/kuzio611.htm
19. Лёсік, Язэп (1995). *Граматыка беларускае мовы Фонэтыка*, факсімільнае выданьне. Менск: Народная Асьвета, с. 122.
20. Лёсік, Я. (1994) «Некаторыя ўвагі да беларускае літаратурнае мовы», *Спадчына* №2, с. 92.
21. Ліс, Леанід (1994). *Беларуская нацыя і мова.* Мінск.
22. Ліс, Л. (2000) «Беларуская мова як аб'ект дзяржаўнай дыскрымінацыі», Аняменне. З хронікі знішчэння беларускай мовы, Вільня, с. 20–28.

23. Пазняк, Зянон (2010). «Меркаванні Зянона Пазняка пра выбары, праўду і байкот…», URL (доступ 15.12.11) http://bsdp.org/?q=be/node/8108
24. Пазьняк, Зянон (2005). *Беларуска-расейская вайна*, Варшава, Беларускія ведамасьці, URL (доступ 15.12.11) http://www.bielarus.net/pdf/ksiazka_2004_rok_srodek.pdf
25. Паўленка, Мікалай (1978). *Нарысы па беларускаму словаўтварэнню. Жаночыя асабовыя намінацыі ў старабеларускай мове*. Менск.
26. Паўлышын, М. (2005) «Казакі на Ямайцы: праявы посткаляніялізму ў сучаснай украінская культуры», *Перекрёстки* № 3–4, URL (доступ 15.12.11) http://old.belintellectuals.eu/library/book.php?id=131
27. Пацюпа Ю. (2007) «Правапісны сымптом моўнай хваробы», *ARCHE*, № 11 (62), URL (доступ 15.02.12) http://arche.bymedia.net/2007-11/paciupa711.htm
28. Пискун, Владимир (1972). *Женские личные номинации в современном белорусском литературном языке (на материале спортивной лексики).* Автореферат диссертации, Минск.
29. Прыгодзіч, М.Р. і Ціванова, Г.К., (1997). *Старабеларускі лексікон*. Мінск.
30. Пузиренко, Я. (2009) «До проблемі номінації осіб жіночої статі в українскій мові (гендерний аспект)», (доступ 15.12.11) http://www.lib.ua-ru.net/inode/3027.html
31. Пузиренко, Ярина (2005). *Агентивно-професійні назви осіб жіночої статі в лексикографічному описі та узусі*, Авторферат, Київ.
32. Рабчук, М. (2003) «Імпэрыя як дыскурс», *ARCHE*, № 1 (24), (доступ 15.12.11) http://arche.bymedia.net/2003-1/rabc103.html
33. *Расейска-беларускі слоўнік* (2003), (рэд.) Янка Купала, Поўны збор твораў, Том 9, кніга першая, с. 369–432.
34. *Русско-белорусский словарь* (1994), Л-П, Том 2. Минск, с. 751.
35. Саід, Э. (2008) «Арыенталізм (уводзіны)», (доступ 15.12.11) http://old.belintellectuals.eu/library/book.php?id=137
36. Сміт, Энтані (1995). *Нацыяналізм у дваццатым стагоддзі*. Мінск.
37. Станкевіч, Я. (2002a) «Аб некаторых словах і хормах нашае мовы», Збор твораў у двух тамах, Том 2, Менск: Энцыклапедыкс, с. 153.
38. Станкевіч, Я. (2002b) «Асаблівасьці мовы вялікалітоўскае (беларускае) у назіраньнях Адама Варлыгі», Збор твораў у двух тамах, Том 2, Менск: Энцыклапедыкс, с. 516.
39. Сцяцко, Павел (2002). *Культура мовы*. Менск: Тэхналогія.
40. Сцяцко, П. (2000) «Русіфікацыя беларускай мовы як праява лінгвацыду», Аняменне. З хронікі знішчэння беларускай мовы. Вільня, с.121–124.
41. Томпсан, Эва (2009). *Песняры імперыі. Расійская літаратура і каланіялізм.* Мінск.
42. Цікоцкі, Міхаіл (1976). *Стылістыка беларускай мовы*. Мінск: Вышэйшая школа, с. 153–154.
43. Шакун, Леў (1984). *Гісторыя беларускай літаратурнай мовы.* Мінск: Вышэйшая школа.
44. Béji, Hélé (2008). *Nous, décolonisés*. Paris: éd. Arléa, URL (доступ 12.01.12) http://www.evene.fr/livres/livre/hele-beji-nous-decolonises-33545.php
45. Calvet, Louis-Jean (1974). *Linguistique et colonialisme, petit traité de glottophagie*. Paris: Payot.
46. Calvet, Louis-Jean (1987). *La guerre des langues et les politiques linguistiques*. Paris: Payot.
47. Corbeil, Pierre (2004). *Le Québécois*. Montréal: Ulysse.
48. Durand, Charles-Xavier (2002). *La mise en place des monopoles du savoir*. Paris: l'Harmattan.
49. Durand, Charles-Xavier (2003). *La nouvelle guerre contre l'intelligence. Paris*: Editions François-Xavier de Guibert, URL (доступ 11.09.11) http://www.imperatif-francais.org/

bienvenu/articles/2003/la-nouvelle-guerre-contre-l-intelligence.html.
50. Fanon, Frantz Omar (1961). *Les Damnés de la Terre*. Paris: La Découverte.
51. Lafont, Robert (1971). *Clefs pour l'Occitanie*. Paris: Seghers.
52. *Letter to a Russian friend* (1979). London.
53. Miron, Gaston (1998). *L'Homme rapaillé*. Montréal: Typo, p. 211.
54. Philippson, Robert (1992). *Linguistic Imperialism*, Oxford: Oxford University Press.
55. Said, Edward (1993). *Culture and Imperialism*, Knopf.
56. Symaniec, Virginie, Lallemand, Jean-Charles (2007). *Biélorussie, mécanique d'une dictature*. Paris; Les Petits Matins.
57. Vallières, Pierre (1967). *Nugres blancs d'Amérique, autobiographie précoce d'un «terroriste » québécois*. Montréal: Editions Parti pris.
58. Yagello, Marina (1992). *Les mots et les femmes*. Paris: Payot.